# КАЛІВА

№ 1
7 лістапада 1999 г.

Бюлетэнь Берасьцейскага абласнога Центра падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў "Вежа"


## Мы пачынаем!

«Зноў нейкая нудота пра грамадскія арганізацыі і дэмакратыю...» падумае нехта, узяўшы ў рукі гэты бюлетэнь і ... , напэўна, будзе мець рацыю. Колькі было ўжо гэтай самадзеяльнай прэсы, якая з налетам палітызаванай апазіцыйнасці распавядала пра паўсядзеннае жыцце трэцяга сектара. Пра усе гэтыя сумныя і вяселыя семінары, трэнінгі, круглыя сталы, канферэнцыі, фестывалі і г. д. Аднак, на самой справе такая інфармацыі, перш за ўсе цыркуліруе па сталічных выданнях, а ў рэгіенах, напрыклад, на Берасьцейшчыне.... Стоп!

Цікавая справа, але ў нашай вобласці ўвогуле няма агульнага выдання, прысвечанага йнасці мясцовых няўрадавых арганізацыяў. Зразумела, раз на месяц у газэце «Брэсцкі кур'ер» з'яўляецца старонка «Трэці сектар», але ў яе ўсё не ўціснеш. А таму мясцовыя НГА вымушаны браць неабходную ім інфармацыю з рэспубліканскіх выданняў. Пры гэтым кожны марыць выдаваць сваю бюлетэнь, але баіцца аказацца ніжэй планкі, што ўзнята «Трэцім сектарам» «Старога горада» і старонкай Брэсцкага Хельсінскага камітэта, якая зусім нядаўна з'явілася ў тым жа «БК».

У такіх незвычайных умовах берасьцейскі абласны Цэнтр падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў «Вежа» вырашыў выдаваць свой бюлетэнь. Ён будзе выходзіць штомесячна і на першым этапе распаўсюджвацца па адрасах да ўсіх грамадскіх арганізацыяў вобласці. Рэдакцыя новаўтворанага незалежнага выдання «Каліва» будзе імкнуцца падыходзіць да апісання падзеяў на прасторы трэцяга сектара меней інфармацыйна, але больш праблемна.



Шмат чаго будзе залежыць і ад вас - шаноўныя чытачы. Бо без вашай інфармацыйнай падтрымкі мы папросту не выжывем. Пішыце, тэлефануйце, факсуйце, шліце месагі па э-мэйлу.

Даверце нам вашу інфармацыю, а мы паспрабуем зрабіць так, каб яна працавала на вас. Самае легкае гэта нічога не рабіць, а таму той хто пачаў, зрабіў палову справы.

І таму, мы пачынаем!



### *Паважаныя ўдзельнікі II Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый Берасцейскай вобласці!*

*Радасна адзначаць, што справа з'яднання арганізацыяў працягваецца. Прайшоў год і зноў мы сустракаемся на вялікім Форуме, для вызначэння прыярытэтных накірункаў дзейнасці, абмену досведам і планавання сумеснай працы. Нас стала больш, мы сталі мацней, мы разам.*

*Спадзяемся, што вынікам II Асамблеі будзе жаданне пленна працаваць на карысць грамадства, што наша сустрэча - яшчэ адна цагліна ў падмурак будаўніцтва грамадзянскай супольнасці на Берасцейшчыне.*

*Хочацца верыць, што 7 лістапада будзе зноў для нас чырвоным днем календара і ўвойдзе ў гісторыю Берасця як Свята Дэмакратыі і Яднання.*

***Жыве незалежная і вольная Беларусь!***

*** **14 кастрычніка Пінскі «трэці сектар» сабраўся на круглы стол «Праблемы грамадскага жыцця ў Пінску».** На ім прысутнічалі прадстаўнікі 12 гарадскіх арганізацыяў. Пад час сустрэчы былі абмеркаваныя пытанні супрацоўніцтва беларускіх, украінскіх і польскіх НГА , прэзентаваныя новыя праекты і праграмы, а таксама выказана згода пінскіх арганізацыяў на ўдзел у ІІ-ой Асамблеі Берасцейшчыны.

*** **16 кастрычнўка Беларуская арганізацыя працоўных жанчын для прадстаўнікоў грамадскіх арганізацыяў Брэста, Баранавічаў, Жабінкі, Івацэвічаў і Ляхавічаў правялі жаночы семінар па тэме: «Сучаснае грамадства і становішча жанчын».** Вядомыя трэнеры: былы міністар працы Сасноў А., юрыст Уельская С., галоўны спецыяліст міністэрства сацыяльнай абароны Лісоўская А. і старшыня БОРЖ Аліева М., закранулі шматлікія грамадскія праблемы. Такія як: заканадаўства РБ аб правах жанчын, жанчына і дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне, дзяржаўная дапамога сем'ям, маючых дзяцей і шэраг іншых.

*** **Працягваецца выданне Баранавіцкага экалагічнага інфармацыйна-адукацыйнага бюлетэня «Неруш».** Галоўным матэрыялам чарговага нумара быў артыкул «Звалкі як прыкмета нашага краю». Як паведаміў нам галоўны рэдактар бюлетэня Уладзімір Зуеў, гэтую інфармацыю з мапай, дзе былі пазначаны ўсе сметнікі раена, прапанавалі самі чыноўнікі, якія матывавалі гэта тым, што ў дзяржаўных сродках масавай «інфармацыі» такі артыкул надрукаваць проста немагчыма.

*** **Пабачыў свет першы нумар бюлетэня-дайджэста «Пружана» мясцовага грамадскага культурна-асветніцкага аб'яднання «Спадчына».** Рэдакцыя газеты спадзяецца, што новая газэта знойдзе сваіх прыхільнікаў сярод краяведаў, настаўнікаў, студэнтаў, школьнікаў, навучэнцаў тэхнікумаў і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй сваей сям'і, вескі, гораду, рэгіену. Пілотны выпуск быў амаль цалкам прысвечанызмагарам за свабоду і незалежнасць краю пад час паўстання 1863-64 гг. Акрамя таго бюлетэні змешчана інфармацыя пра грамадскія арганізацыі Пружанскага раену, навіны культуры абвесткі пра новыя праграмы рэспубліканскай Асамблеі.

*** **Берасьцейская абласная філія Беларускага рэспубліканскага фонда падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Льва Сапегі сумесна з Fundacja Miedzynarodowe Centrum Ksztalcenia i Razwoju Gospodarczego Mielec на пачатку лістапада правялі семінар па тэме: «Вольны рынак і чыннікі дэмакратыі».** Прысутныя на ім: дзеячы прафсаюзных арганізацыяў, прадстаўнікі трэцяга сектару і бізнэсу, праслухалі шэраг лекцыяў, што тычыліся праблемаў узаемасувязяў і дыялектыкі развіцця дэмакратыі і вольнага рынку, ролі пазаўрадавых арганізацыяў у фармаванні грамадзянскай свядомасці, перспектывам развіцця прадпрымальніцтва на Беларусі. Пасля абеду адбыўся круглы стол: «Узаемазалежнасць трыяды: Дэмакратыя, Права, Вольны рынак».

### *Круглы стол, які быў неабходны, нічога не вырашыў, але дазволіў выказацца*

# «ДАЙЦЕ МНЕ РЭСУРСНЫ ЦЭНТР І Я ПЕРАКУЛЮ ТРЭЦІ СЕКТАР»

20 кастрычніка 1999 года ва ўтульным памяшканні берасьцейскага Фонда падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Льва Сапегі, здаецца, упершыню адбыўся круглы стол ініцыятыва правядзення якога ішла ад саміх грамадскіх арганізацыяў, а не ад рэсурсных цэнтраў. Арганізатары гэтай сустрэчы - Клуб дзелавых жанчын і берасьцейскае аддзяленне Беларускага Хельсінскага камітэту, акрэслілі тэму круглага стала даволі «сціпла»: «Роля і задачы рэсурсных цэнтраў Берасьця ў развіцці і актывізацыі дзейнасці NGO». Калі зыходзіць з прапанаванай тэмы, то атрымлівалася, што усе прысутныя (а іх сабралася нямала - каля 40 чалавекаў) павінны былі выслухаць справаздачы рэсурсных цэнтраў і выставіць ім адзнакі па кожнаму віду іх дзейнасці. Аднак, ад самага пачатку размова пайшла па іншаму сцэнару.

Прэзідэнт Беларускай асацыяцыі жанчын юрыстаў Галіна Дрэбезава адразу нанесла моцны ўдар, калі юрыдычна абгрунтавана паставіла пад сумнеў саму сутнасць вынесеных на абмеркаванне пытанняў. Аднак арганізатары даволі легка выйшлі з гэтай цяжкай сітуацыі, заявіўшы, што гэты круглы стол накіраваны выключна на знаемства і рэкламу. Да бар'еру быў запрошаны першы дакладчык - кіраўнік абласнога Цэнтра падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў «Вежа» Іна Кулей. Яе прамова была пабудавана па класічнаму прэзентацыйнаму прынцыпу і не выклікала асаблівых пытанняў з боку грамадскасці. Аўдыторыя выбухнула пасля аналітычнага даклада-развважання старшыні Фонда Сапегі Генадзя Праневіча, які ў прыватнасці сказаў: «Праблема акрэсленная тэмай круглага стала вельмі сур'езная. Што такое рэсурсны цэнтр? Справа ў тым, што і па сеняшні дзень гэтае паняцце застаецца на жаль неакрэсленым. Наш стэрыятып успрымання - Вы цэнтр, дайце! Так рабіць нельга.Калі арганізацыя мае на адзін кампутар і ксеракс больш за астатніх, то яна аўтаматычна трапляе ў разрад «рэсурснага цэнтра». Чаму? Атрымліваецца, што ў нас арганізацыі самі не вольныя выбіраць кім яны з'яўляюцца, іх проста прызначаюць!»

Менавіта ад гэтай пары дыскусія набыла неабходную для такіх паседжанняў напругу і пытанні пачалі з'яўляцца адзін за другім. Усе яны былі даволі вострымі і, безумоўна, сведчылі аб пэўных праблемах у адносінах паміж грамадскімі арганізацыямі Берасьцейшчыны. Казалі пра недахоп інфармацыі ад рэсурсных цэнтраў, пра матэрыяльныя магчымасці арганізацыяў, пра слабы аналіз праведзеных мерапрыемстваў і г. д. Хтосьці ў запале ўвогуле патрабаваў разагнаць Рабочую групу Асамблеі, камусьці не спадабаўся новы цэнтр сацыяльнай падтрымкі. З расказу прэзідэнта грамадскага аб'яднання «Стары горад» Ірыны Лаўроўскай стала вядома, што ў горадзе больш ня дзейнічае прадстаўніцтва вядомага рэсурснага цэнтра «United Way». Аднак спадкаемца гэтай арганізацыі з тымі ж правамі стаў «Стары горад», які па фінансавых магчымасцях пакуль не можа весці праграмы «Аб'яднанага шляха» ў поўным аб'еме.

Паступова стала ясна, што калі прытрымлівацца палажэнняў статутаў, то з 4-х існуючых у Берасьці рэсурсных цэнтраў на самой справе цэнтрам з'яўляецца толькі адзін «Інфацэнтр» Валеры Фамінскага, якога, дарэчы, на круглым стале не назіралася. Далей размова пайшла пра Беларускую асацыяцыю рэсурсных цэнтраў і некаторыя з прысутных відавочна супрацьпастаўлялі гэтую арганізацыю Рэспубліканскай Асамблеі недзяржаўных арганізацыяў. Было бачна, што чарговую структуру сябры НГА ўспрымалі як яшчэ адну перашкоду ў дыялогу паміж фондам і арганізацыямі. На самой справе стваральнікі асацыяцыі ніякім чынам не ставяць падобных мэтаў, а проста імкнуцца аб'яднаць рэсурсы цэнтраў, што дазваляе падтрымліваць буйныя агульнарэспубліканскія праекты. На заканчэнне ўсіх злегку «папужаў» Анатоль Ляўковіч - кіраўнік берасьцейскага БХК, які засяродзіў увагу на тым, што ідзе пільнае назіранне і адсочванне за ўсімі праектамі, а ўсе г. зв. «грантасмокі» знаходзяцца на кантролі. Потым прагучала яшчэ некалькі думак: разумных і ня вельмі. Цікавая прапанова аб правядзенні сумесных акцыяў, а ў прыватнасці сустрэчы новага года, так і не знайшла падтрымкі ў байцоў трэццясектарнага фронту.

Паступова, выказаўшы усе, што накіпела за апошні час, бяседа пачала затухаць, а ўдзельнікі круглага стала, разбіўшыся на дробныя групкі, вырашаць свае пытанні. Самае цікавае, што ўсе чамусьці засталіся задаволеныя гэтымі перамовамі і перш за ўсе самі рэсурсныя цэнтры. А можа яно так і трэба, можа з гэтага і складаецца сярмяжная праўда жыцця, вось так сабрацца раз на месяц, жахнуць адзін аднаму праўду-матку, а потым, нарэшце, рабіць справу.

**Сяржук ДУБРОЎСКІ**

Асамблея Дэмакратычных Няўрадавых Арганізацыяў

# Другі выбух Асамблеі

Калі ў лютым 1997 года шэраг берасцейскіх няўрадавых арганізацыяў прынялі ўдзел ва ўстаноўчым сходзе новаўтворанай Асамблеі беларускіх дэмакратычных няўрадавых арганізацый, мала хто лічыў гэтую задуму жыццяздольнай. На гэты перыяд агульнарэспубліканскіх структураў было створана дастаткова, каб упэўніцца, што яны «мертванароджанае дзіця». Добра, калі памыляешся ў лепшы бок. Ідэя Асамблеі Беларускіх дэмакратычных НДА, падтрыманая шэрагам замежных фондаў, пачала пакрысе раскручвацца і набіраць сябе пункты. Рабочая група і Выканаўчае Бюро Асамблеі здолелі зрабіць сябе рэкламу ў галіне калектыўнай самаабароны арганізацыяў. Асабліва паспяховым праектам Асамблеі стала аказанне інфармацыйнай дапамогі арганізацыям праз выданне інфармацыйна-аналітычнага бюлетэню і іншых матэрыялаў.

У траўні - ліпені 1998 году ў Горадні, Віцебску, Магілеве, Гомеле прайшлі абласныя форумы дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў, вынікам якіх стала стварэнне Гарадзенскай, Віцебскай, Магілеўскай і Гомельскай абласных Асамблеяў дэмакратычных НА. Нарэшце, на пачатку верасня 1998 году больш за 90 прадстаўнікоў няўрадавых арганізацыяў Берасьцейскай вобласці сабраліся на сваю І-ую Асамблею. Пад час паседжання былі абраныя Асамблееўскія структуры - Рабочая група, прынята рэзалюцыя.

У Рабочай групе былі прадстаўлены інтарэсы Берасьця, Пінска, Баранавічаў і Пружанаў. Рабочая група, як і ў рэспубліканскай Асамблеі, з'яўлялася адкрытай структурай, у працы якой магла ўдзельнічаць любая арганізацыя-сябра Асамблеі. Рабочая група прымала рашэнні, якія з'яўляліся абавязковымі для ўдзельнікаў групы і рэкамендацыйнымі для іншых арганізацыяў-сябраў Асамблеі. Неакрысленасць функцыяў унутры самой Рабочай групы даволі хутка прымусіла шукаць пэўныя захады, каб гэтая аморфная структура пачала працаваць. Справа ў тым, што ніхто не спяшаўся браць на сябе аніякіх абавязкаў, не быў вырашаны тэрмін склікання групы. 15 студзеня, рыхтуючыся да Кангрэса дэмакратычных сіл, Рабочая група Асамблеі вырашыла, што для таго, каб наладзіць пленную працу, неабходна працаваць у пастаянным складзе. Але як? Усе ж такі на І-ай абласной Асамблеі перамог адкрыты варыянт Рабочай групы. Жыццё само падказала выхад. Рабочая група пачала працаваць у пастаянным складзе, пра што ўсе асамблеісты былі праінфармаваныя праз тлумачальныя лісты (ніхто супраць не выступіў).

На той жа І-ай Асамблеі выступіла Рада маладзевых арганізацыяў вобласці «Поўня». Яна ўвайшла ў рэспубліканскую Асамблею, але не захацела ўвайсці ў абласную. Рабочая група павінна была лічыцца і з гэтым аспектам.



Пад час паседжання Першай Асамблеі

У прынцыпе, у першыя пасля асамблееўскія месяцы Рабочая група знаходзілася ў сонным становішчы. Усе рэзка змяніла, па-першае, перарэгістрацыя НДА, па-другое, новы метад разгляду праектаў. З канца мінулага года колькасць праектаў, якія пачалі паступаць у рэспубліканскую Асамблею, рэзка ўзрасла. Таму было вырашана, што на пачатковым этапе разгляд прапанаваных праектаў будуць весці Рабочыя групы абласных Асамблеяў. Ад гэтай пары, праца групы стала больш арганізаванай, яе сябры сталі збірацца рэгулярна, а разгляд праектаў дазваляў быць у курсе спраў «трэцяга сэктара».

Такім чынам, узнікла неабходнасць сабраць ІІ-ую Асамблею дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Берасцейшчыны, на якой асноўнымі пытаннямі хутчэй за ўсе будуць:

* прыняцце ў сябры Асамблеі новых арганізацыяў;
* выбары працаздольнай Рабочай групы, з вызначэннем дакладных функцыяў для кожнай пасады;
* каардынацыя дзейнасці НДА на Берасцейшчыны і г.д.

Для пераходу Асамблеі на новы больш якасны ўзровень дзейнасці дадзенае паседжанне - «архіважна».

**Алесь СУМНЫ**

---

Посольство Соединенных Штатов Америки В Беларуси

# ИНФОРМАЦИЯ ДЛЯ ПРЕССЫ

28 октября в письме на имя Михаила Мясниковича Посол США Дэниел Спекхард обратился за разъяснениями по поводу высказываний главы президентской администрации 18 октября по белорусскому телевидению, в которых Запад обвинялся в выделении средств на то, чтобы «ломать, крушить и поджигать», а «не на лекарства». Посчитав такие заявления оскорбительными для США и не отвечающими действительности, Посол США привел сведения о том, что только за последний год Соединенные Штаты предоставили Беларуси гуманитарную помощь на сумму в 15 миллионов долларов, из которых 5,8 миллионов долларов поступили в виде медицинского оборудования и лекарств. Только в сентябре этого года в Больницы Беларуси были доставлены лекарства на сумму 1,7 миллиона долларов. Тысячи детей из зараженных районов ежегодно проходят оздоровление в странах Запада за счет принимающей стороны.

В своем письме Посол отметил, что вместо обвинений в адрес Запада властям страны следует обратить внимание на собственную политику подавления и репрессий как источник нестабильности и противостояния в Беларуси.

Посол высказал белорусским властям просьбу довести до общественности истинное положение дел в сфере предоставления США гуманитарной помощи Беларуси и прекратить обвинения в адрес Запада в связи с событиями октября с.г.

*29 октября 1999 г.*

# NULLA DIES SINE LINEA (Ни дня без строчки)

*Покупай приставку Dendy, чтобы Modus был Vivendi.*

Идея... Она как Черный Плащ: всегда витает над вами, застревает в зубах, прилипает к подошве, становится причиной бессонницы; она ходит за вами по пятам, что так и хочется, расклеить объявления: «Меняю манию преследования на манию величия». Странно, но все, кому ни рассказываешь о выпестованной нами задумке (в нашем случае, создать студенческую газету) приходят в полнейший восторг, и в то же время говорят коротко и ясно: «Делайте!». И звучит это так, как будто мы - специалисты в газетном бизнесе и у нас есть компьютер, принтер, а, главное, люди.

т тут сразу же следуют советы специалистов-вымогателей: «Ребята, пишите проект». Ну, что нам стоит дом построить... Мы же (наверное, зря), в отличии от многих «мотыльков», попытались поставить себя на грантодательский пьедестал и *поняли*, что давать деньги очень сложно тому, кто еще ни то чтобы не мяукнул, даже не пискнул. Да и немного поразмыслив, поняли, что добраться до техники можно, главное, сильно этого захотеть.

Независимая газета студентов Бреста

MODUS VIVENDI©

Студент - это не профессия, а образ жизни.

Итак, мы стартовали...

Газета, как и яхта, должна иметь свое гордое и громкое имя, а нам хотелось кричать как можно громче. Gaudeamus, Alma Mater - милая сердцу «студенческая» латынь, навела на мысль, что традиционное - не обязательно плохое и, прошвырнувшись по страницам словаря, мы наткнулись на «свое» - образ жизни - Modus Vivendi. *Теперь, с названием: «...не взлетим, так поплаваем».*

Не стоит, наверное, говорить об успехах, хотя само то, что не имея финансов для выплаты гонораров, сканера, принтера и компьютера непосредственно у газеты, мы в первый раз вышли в свет - громадное достижение. Проблемы же начались еще до выхода в свет «первой ласточки». Знаете, есть люди, которые язык за зубами могут держать только тогда, когда его там нет. И удачно написанная статья-разгром отчетного концерта по студенческой весне, чем не повод для хвальбы! Но, если честно, почему не похвалиться! Короче, критика была воспринята, как позыв к атаке, и властные структуры Брестского университета начали слетаться на редакцию «MV», ибо все мы студенты БрГУ. Шантаж привел к тому, что статья не была включена в номер. Мы, предусмотрев и такой поворот, подписывались псевдонимами, людям же с реальными именами устраивали *«промывку мозгов» и пытались сделать шестерками.* В чем состояла основная проблема удалось узнать много позднее от людей более опытных, приведших в пример студентов истфака, развешивавших бел-чырвона-белыя сцягі - универу пришлось отвечать, как рассаднику вольнодумства. Да, господа, у нас есть более важное оружие - слово, им мы и пользуемся. И если бы в газете появилась крамольная статеечка, лучше спихнуть это на крайнего...

Вышел первый номер с основными статьями о распределении и методах борьбы с ним, о балканской проблеме и о декоративных выборах в местные советы.

В принципе, понятно, что если о чем-нибудь знают больше одного человека - об этом знает весь свет. Поэтому выход газеты был сопряжен для главного редактора с сообщениями о том, что декан и проректор по науке настойчиво ищут со мной встречи. Оказалось, что ему вполне достаточно знать о том, что газета не имеет никакого отношения к технической базе университета. Все преподаватели моего факультета и вовсе поддерживали такую инициативу, более того, давали нам «зеленый свет». А «жвачкой, застрявшей в зубах» мы стали для филологов - проректора по воспитательной работе и главного редактора газеты «Берасцейскі Універсітэт». Об этом стало известно после выхода второго номера.

Наш «мистер секонд» привлекал статьей об инаугурации ректора университета. Теперь с главным редактором пожелал побеседовать 1-ый проректор и иже с ним - ничего не скажешь - встреча на высшем уровне. Приходилось удивляться: что же такое крамольное есть в статьях «MV». Ну, подумаешь, нового ректора назвали Акеллой и написали об окончании термина президенства А.Г. Лукашенко.

Нам даже предлагали страницу в «Берасцейскім универсітэце», ссылаясь на то, что в этом случае ничего лишнего написать не удастся. Предложение заманчивое, но, поймав порыв диссидентства, сотрясать воздух рубленными фразами не хотелось. Но это были проблемы чисто морального плана. Материальные же возникли к выпуску третьего номера, наполовину посвященного событиям 30 мая на Немиге. Долгое отсутствие средств для приобретения бумаги формата А3 привело к старению информации и номер пришлось похоронить. 3-ий и 4-ый номера вышли уже в этом учебном году. Поскольку мы не зарегистрированы (ну, нет у нас средств на регистрацию) более 299 экземпляров выпускать мы не имеем права. Для двух ВУЗов г. Бреста этого чрезвычайно мало. Газета как раздается, так и развешивается на досках объявлений, а всевозрастающая популярность нашего издания, приводит к тому, что номера постоянно срывают со стен. «Пишите проект,» - эта мысль изъела весь мозг, но, поверьте, когда вы начнете выпускать газету, ничего другого, кроме как думать о подготовке следующего номера в печать, в голову и не лезет, а еще есть учеба - тоже нехилая трата времени и сил. И вообще, совет редакции «Каліва» - придерживайтесь «западных» истин: работа - это работа, личная жизнь - это личная жизнь. Удачи коллеги!

**Главный редактор газеты «Modus Vivendi»**
**Ксения Линевич**

## Грамадскае аб'яднанне «Стары горад» пры падтрымцы фонда IREX і USIS пачалі навучаць берасцейцаў асновам выдавецкай дзейнасці ў «Школе пачынаючага выдаўца».

Пачатковы курс «Навучанне асноўным навыкам версткі друкаванай прадукцыі» быў праведзены 15 - 17 кастрычніка непасрэдна для дзесяці берасцейцаў-выдаўцоў, а 29 - 31 кастрычніка - для рэгіянальных газетчыкаў, дзе былі прадстаўнікі малатыражных выданняў з Баранавічаў, Бярозы, Пінска, Пружан і Гомеля.

На працягу трох дзен выкладчыкі з «Брестского курьера» - Раман Аляксандраў, Ігар Мергес і Ірына Марозава - не толькі выдавалі тэорыю, але і практычна паказвалі як макетаваць друкаваную прадукцыю, вярстаць газэтныя старонкі ў праграме PageMaker і апрацоўваць фатаздымкі ў праграме PhotoShop. Пасля ўсіх неабходных практыкаванняў навучэнцам былі выдадзены сертыфікаты аб заканчэнні гэтага курса.

Вельмі адметнай рысай гэтага семінара была практычная праца над наглядам сапраўдных прафесіяналаў газэтнага бізнэсу. Акрамя сертыфікату, кожны атрымаў выданне «Обучение основам печатной продукции», практычныя веды, сувязь з прафесіяналамі, добры настрой і жаданне працаваць разам ў далейшым.

**Тэст:**

# Сапраўдны Вы лідар грамадскага аб'яднання, альбо не?

**1) Калі сяброўка прапаноўвае вам правесці разам вечар, Вы:**
- распішыце праект вечара з бюджэтам на ўвесь наступны год;
- звярніцеся ў БХК за кансультацыяй;
- арганізуеце мазгавы штурм.

**2) Пры словах «новы фонд», Вы:**
- ствараеце новую арганізацыю;
- спрабуеце нікому другому аб гэтым не паведамляць;
- пачынаеце вывучаць партрэты амерыканскіх прэзідэнтаў.

**3) Ваш ксэракс не працуе, Вы:**
- працягваеце ксэраваць далей;
- праводзіце пікет супраць палітыкі прэзідэнта і зарабляеце грошы на новы ксэр;
- задавальняеце сябе другімі сродкамі.

**4) Грантадаўца прапаноўвае вам грошы, Вы:**
- адмовіцеся ад іх. Навошта вам гэтая недэнамініраваныя зелень, якая ніколі не расце;
- скажыце яму «вялікае дзякуй»;
- папросіце яшчэ.

**5) Вам неабходна патэлефанаваць у Сан-Францыска. Вы:**
- будзеце настойваць на асабістай сустрэчы за кошт прымаючага боку;
- выкарыстаеце тэлефон таго, хто вам не падабаецца;
- арганізуеце круглы стол замест плануемага семінара і на астатнія грошы набудзеце сотавік.




**6) Калі заўтра з'явіцца новы Дэкрэт пра перарэгістрацыю, Вы:**
- дачакаецеся новага ППРБ;
- узначаліце падпольны «трэці сектар»;
- пасяліцеся ў адзеле юстыцыі.

**7) На семінарах Вас больш за ўсе цікавіць:**
- харчаванне;
- грошы за квіткі;
- культурная праграма.

**8) Дзе Вы былі 17 кастрычніка 1999 года:**
- на семінары;
- на круглым стале;
- у чарзе за булыжнікамі.

**9) Хто з трох прапанаваных асобаў аказаў на Вас найбольшы ўплыў:**
- Леў Сапега;
- Стэфан Баторы;
- Джордж Сорас.

**Калі вы згодны з кожным прапанаваным варыянтам, то нашыя віншаванні - Вы прафесійны грамадзкі дзеяч.**

***Увага! Шаноўныя жыхары трэцяга сектару, калі Вы ведаеце такія ж прыкольныя сітуацыі, анекдоты, вершы, то не хавайце іх у сябе. Мы заўжды будзем рады прадаставіць вам сваю старонку.***

Усе ведаюць, што Асамблея НГа месціцца на К.Маркса 6-36, атрымалася так, што адзін з кіраўнікоў грамадскага аб'яднання Цэнтр «Форум» вельмі спяшаўся даслаць свой антыфашысцкі праект па гэтаму адрасу, але замест 6-36 пазначыў на канэрце 36-6. Карацей, праект адправіўся ў адміністрацыю ППРБ. Але гэта яшчэ не ўсе. Праз некаторы час канэрт, абклеены 20 маркамі, вярнуўся на радзіму. На афіцыйным лісце стаяла рэзалюцыя: «На жаль мы ня маем фінансавых магчымасцяў, каб падтрымаць ваш праект».

Гэта адбылося на сумесным чэшска-беларускім семінары. Калі адзін з беларускіх сацыял-дэмакратаў у сваей прамове сказаў з сур'езным відам, што «Мы жадаем, каб Беларусь арыентавалася на Захад», чэхі ўсе так і прыснулі. Аказалася, што па чэшскі «заход» - прыбіральня.

Пра Марш свабоды ўжо ходзяць такія лягенды, што вушы пухнуць. Так, адзін з удзельнікаў расказваў, што ен двойчы фарсіраваў Свіслач, а калі менты блакіразалі абодва берагі, пайшоў уздоўж.




## Дошка аб`яваў

### УВАГА!

### Прачытайце і паведаміце ўсім калегам!

**15 лістапада 1999 года, у панядзелак, з 14.00 да 17.00** БРГА «Аб"яднаны шлях» праводзіць семінар для прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый па тэме **«Ліквідацыя грамацкіх аб"яднанняў і іх арганізацыйных структур»** з удзелам начальніка Упраўлення грамадскіх арганізацый Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь Сухініна Міхаіла Міхайлавіча. Семінар праводзіцца па адрасу: г.Мінск, вул. Уральская, 3, актавая зала на 3 паверсе (падымацца па лесвіцы з левага боку).

**Рэгістрацыя 13:20 - 13:55. Пачатак РОЎНА ў 14:00.**

У Вас ёсць унікальная магчымасць не толькі даведацца аб парадку ліквідацыі і самаліквідацыі, але і атрымаць адказы на ўсе пытанні, што тычацца дзейнасці грамадскіх арганізацыяў Беларусі.

**Папярэдні запіс па тэлефонах (017) 230 32 76, 230 80 54 або па электроннай пошце uwb@user.unibel.by**

**Галоўны рэдактар:** Ян МЕСАГА
**Макет:** Людміла ШАЙДЗЯНКОВА, Ўладзімір СТУПІНСКІ
**Мастак:** Кацярына ХАСАНШЫНА

Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя.
Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для дальейшай палемікі

КАЛІВА
Бюлетэнь Берасцейскага абласнога Цэнтра падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў «ВЕЖА»

**Адрас:** г. Берасьце, вул. Савецкіх Памежнікаў, 52
Тэл. (0162) 20-34-87 Тэл./факс (0162) 20-34-92
e-mail: vezha@belpak.brest.by

Падпісана ў друк 06.11.99 г. ў 14.00
Тыраж 299 ас.

*Сверстано на настольно-издательской системе продюсерского центра «Тасика»*

*Надрукавана на памнажальнай тэхніке Берасьцейскага абласнога Цэнтра падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў «ВЕЖА»*